наша
# СВАБОДА

№8 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 САКАВІКА 2000 года АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

РАЗБУРАЛЬНЫЯ ЎКАЗЫ



стар.4

# Рэха «Маршу Свабоды»

**НЬЮ-ЙОРК: пратэст супраць Расіі**

Пікет салідарнасці з дэмакратычнымі сіламі Беларусі ў падтрымку «Маршу Свабоды-2» прайшоў 18 сакавіка ў Нью-Йорку. Прыкладна 50 чалавек па вуліцах горада пад бел-чырвона-белымі нацыянальнымі сцягамі прыйшлі да расійскай амбасады. У амбасаду была перададзеная петыцыя пратэсту супраць захопу Беларусі Расіяй.

**ВІЦЕБСК: несанкцыяванае шэсце**

У Віцебску Дзень Канстытуцыі 15 сакавіка быў адзначаны шэсцем па цэнтральных вуліцах горада. У ім узяло ўдзел каля 400 чалавек – лічба вялікая, калі ўлічыць, што акцыя не была санкцыяваная гарадскімі ўладамі, а на вуліцы стаяла халоднае надвор'е са снегам і дажджом.

У акцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі раёнаў Віцебскай вобласці. Дэманстранты прайшлі пад лозунгамі «Не – саюзу з Расеяй», «Спыніць галечу народа», «Лукашэнка – зыходзь!». Большую частку калоны складала моладзь. Міліцыя не перашкаджала правядзенню акцыі.

**ВАРШАВА: пластычная аперацыя Лукашэнкі**

У Варшаве, каля беларускай амбасады, 15 сакавіка таксама прайшоў вялікі пікет салідарнасці з беларусамі.

Як паведаміў прэс-цэнтру Хартыі прадстаўнік Маладога Фронту Ігар Банчар, у пікеце прынялі ўдзел некалькі дзесяткаў чалавек – прадстаўнікі МФ і Аб'яднанай грамадзянскай партыі. На пікет таксама прыйшоў Алег Батурын, былы міліцыянт, які нядаўна пакаяўся ў тым, што ён быў удзельнікам правакацыяў супраць удзельнікаў мінулага «Маршу Свабоды». З-за пагрозы свайму жыццю Батурын быў вымушаны пасля прызнання хавацца і з'ехаць з Беларусі.

Удзельнікі пікета ў сваіх выступах расказалі пра сітуацыю ў Беларусі.

Быламу прэзідэнту Лукашэнку было прапанавана з'ехаць з Беларусі добраахвотна і тэрмінова. Каб яму зручней было з'язджаць, удзельнікі пікета прапанавалі зрабіць яму пластычную аперацыю – усе прысутныя маглі «падправіць» прэзідэнта, размаляваўшы на плакаце ягоны твар. Затым размаляваны партрэт быў разарваны на дзве часткі – адна кінутая ў паштовую скрынку амбасады, другая паляцела ў сметніцу. Пасля пікетавання, якое доўжылася паўтары гадзіны, прысутных запрасілі прыйсці да амбасады на пікет, прысвечаны Дню Волі, які пройдзе 24 сакавіка.




Фота Ул.ШЛАПАКА

**САЛІГОРСК: пікет з тысяччу ўдзельнікаў**

У Салігорску 15 сакавіка адбыўся пікет салідарнасці з удзельнікамі мінскага «Маршу Свабоды-2». Гэтая акцыя, арганізаваная Беларускім незалежным прафсаюзам, сабрала каля 1.000 удзельнікаў.

**ПРАГА: свечка Незалежнасці**

У Празе, перадае радыё «Свабода», 15 сакавіка беларусы, якія жывуць у Чэхіі, а таксама шматлікія прыхільнікі беларускай незалежнасці і дэмакратыі запалілі свечкі Незалежнасці ў салідарнасці з намі. 16 сакавіка ў Сенаце Чэхіі, у Камітэце замежных справаў, абароны і бяспекі прайшлі слуханні беларускага пытання – чэшскія сенатары абмеркавалі праблемы правоў чалавека, дэмакратыі, свабоды прэсы ў Беларусі, а таксама вынікі «Маршу Свабоды».

**КІЕЎ: не дапусцім беларускага сцэнару на Украіне!**

У Кіеве 15 сакавіка пікетавалі амбасаду Беларусі. У пікеце ўдзельнічала больш за 50 чалавек. Акцыю салідарнасці з беларускім «Маршам Свабоды» арганізавалі ўкраінскія маладзёжныя арганізацыі. Удзельнікі акцыі выказалі пратэст рэжыму Лукашэнкі і заявілі, што не дапусцяць паўтору беларускага сцэнару ў сваёй краіне. Яны паведамілі, што гэтым разам пастанавілі не адпраўляць сваіх пасланцоў у Мінск, каб не дазволіць рэжыму Лукашэнкі пасля абвінаваціць «украінскіх экстрэмістаў у арганізацыі масавых хваляванняў».

**БРУСЕЛЬ: эмігранты супраць дыктатуры**

15 сакавіка прайшоў традыцыйны пікет у падтрымку «Маршу Свабоды» каля беларускай амбасады ў Бруселі. Акцыя была арганізаваная «Цэнтрам беларускіх бежанцаў» у Бельгіі і інстытутам IFIAS, брусельскім партнёрам Хартыі'97. У акцыі ўзяло ўдзел звыш 40 чалавек, якія прыбылі сюды з розных гарадоў Бельгіі – Антверпена, Бруселя, Мешэлена, Сент-Нікаласа, Гента і іншых, у асноўным маладыя людзі, некаторыя з жонкамі і дзецьмі. Прэзідэнт IFIAS Герд Грэйн выступіў перад мітынгантамі з прамовай, у якой зазначыў, што інстытут, які ён узначальвае пры падтрымцы беларускай дыяспары ў Бельгіі, будзе і надалей працаваць на карысць дэмакратычных пераўтварэнняў у Беларусі. ■

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

■ **У наступны уік-энд Аляксандр Лукашэнка збіраецца на Блізкі Усход.** Згодна з паведамленнем прэс-службы, 25-27 сакавіка адбудзецца ягоны візіт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Магчыма, што, акрамя ААЭ, А.Лукашэнка наведае яшчэ і Бахрэйн, аднак канчатковае рашэнне пра гэта яшчэ не прынятае.

■ **Міхаіл Паўлаў быў прызначаны старшынёй Мінскага гарвыканкама.** Раней ён узначальваў Баранавіцкі гарвыканкам. Цяпер ягоная кандыдатура мусіць быць зацверджаная на бліжэйшай сесіі гарадскога Савета. Дарэчы, М.Паўлаў паходзіць з Магілёўскай вобласці.

■ **У Крычаве (Магілёўская вобласць) створаныя добраахвотныя народныя дружыны з маладых работнікаў прадпрыемстваў.** За пяць вячэрніх дзяжурстваў яны атрымоўваюць адзін мінімальны заробак (2 тыс. 200 рублёў). Гэтыя сціплыя грошы становяцца для некаторых жыхароў істотнай падтрымкай. На сённяшні дзень дружыннікаў ужо больш за 50.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 900**

## ПРАЦЭС

# Лёс дэпутата

Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ

**Яшчэ на чатыры гады зацягваецца турэмная эпапея вядомага апазіцыянера Андрэя Клімава. Бліскучы парламенцкі аратар, удалы бізнесмен, непрымірымы апанент Лукашэнкі, рашэннем калегіі раённага суда Клімаў прызнаны вінаватым у «прысваенні дзяржаўнай маёмасці» і адпраўлены дабываць шасцігадовы тэрмін у адну з калоніяў узмоцненага рэжыму. Такім чынам, Клімаў падзяліў лёс Уладзіміра Кудзінава, даказаўшы эмпірычным шляхам, што ў нас бізнесмен можа займацца палітыкай, толькі калі ён лаяльны да вышэйшай улады. У іншым выпадку яго чакае альбо разарэнне ці іміграцыя, альбо турма з аднaчасовым разарэннем.**

**Каб ацаніць сэнс падзеі, перагорнем некалькі старонак з дэпутацкага жыцця Андрэя Клімава.**

## 1995

Ужо адбылося збіццё і выгнанне з Авальнай залы парламента дэпутатаў-апазіцыянераў, ужо прайшоў ганебны для нацыянальных пачуццяў беларусаў травеньскі рэферэндум, ужо расстраляны беларускім знішчальнікам паветраны шар з двума амерыканскімі турыстамі і на рахунку рэжыму з'явіліся першыя чалавечыя жыцці... Вось на такім фоне восенню 1995 года быў дадзены старт выбарам у новы парламент, дэпутатам якога стаў мінскі бізнесмен, былы міліцыянт-пажарнік Андрэй Клімаў.

Лёс гэтага 13-га парламента пачынаўся ў адпаведнасці з ягоным парадкавым нумарам. Выбары праходзілі ў цяжкія два этапы. Аляксандр Лукашэнка, які ў той час яшчэ не лічыў за ганьбу згадаць сваё дэпутацкае мінулае, праз дзяржаўныя СМІ заклікаў не верыць кандыдатам у дэпутаты, бо тыя «ўсё роўна падмануць». Бліжэйшае атачэнне прэзідэнта і вертыкальшчыкі на месцах зразумелі «агітацыйны імпульс» свайго шэфа і як маглі сабатавалі правядзенне выбараў. І ўсё ж з другой спробы ўдалося абраць больш паловы дэпутатаў і абвесціць на ўвесь свет, што першыя за часы незалежнасці Беларусі выбары ў парламент адбыліся. Колькі радасці было, колькі спадзяванняў на лепшае! Нават чалавек-жалезная маска Аляксандр Абрамовіч, тагачасны старшыня Цэнтрвыбаркама, а цяпер намеснік кіраўніка адміністрацыі, на выніковай прэс-канферэнцыі расслабіўся і парадаваў прэсу намёкамі ў бок тых, хто спрабаваў сарваць выбары. Толькі не ўдалося, не далі нашыя выбаршчыкі сябе падмануць, свяціўся твар старшыні. Здаецца, і Клімаў тады згадваўся як прыклад непахіснага памкнення народа да дэмакратыі.

Дарэчы, перамозе Клімава здзіўляліся толькі людзі недастаткова дасведчаныя. Супрацоўнікі пажарнай аховы, якія пазнаёміліся з Клімавым-інспектарам, ведалі яго як чалавека, для якога ісці працаваць у полымя — не подзвіг ці крок адчаю, а звычайная праца. ►

Заканчэнне на стар.6

 





Фота IREX/ProMedia

# «Камароўка» баставала

**Рыгор БУЯН**

**Камароўскі рынак баставаў супраць так званай рэканструкцыі, якая павінна «з'есці» каля 1.500 працоўных месцаў. У дзень Канстытуцыі гандляры прыйшлі на «Камароўку» абараніць свае правы на працу.**

Папераджальная забастоўка «камароўскіх» прадпрымальнікаў выклікана так званай рэканструкцыяй рынку. З 1 сакавіка істотна скарацілася колькасць гандляроў рэчамі (увогуле рэчавы гандаль спыняецца з 15 красавіка). Адміністрацыя рынку тлумачыла выгнанне «чаўнакоў» тым, што «Камароўка» – прадуктовы рынак, і цяпер «чаўнакам» няма месца. Аднак, як аказалася, цяпер на рынку няма месца і для прадаўцоў бакалейных тавараў, што гандлююць з машын. Гарадскія ўлады прынялі рашэнне закрыць з 1 красавіка пляцоўку, на якой месцяцца машыны, ды адчыніць на яе месцы аўтастаянку. Хоць побач размешчаная аўтастаянка з гучнай назвай «Паркінг» – яе мала?

Зрэшты, «камароўскі перадзел» цягнецца ўжо не першы месяц. Цяперашняя спроба выгнаць бакалейных гандляроў з рынку – не першая з боку гарадскіх уладаў. Але сёлета, здаецца, пытанне было часова закрытае: 21 лютага на нарадзе гарвыканкам разам з прадпрымальнікамі вырашылі часова закрыць праблему да высвятлення ўсіх акалічнасцяў. Аднак, як бачна, любая дамоўленасць з уладамі не вартая і ломанага граша, пра што і сведчыць выгнанне бакалейшчыкаў.

Пляцоўка, на якой размяшчаюцца машыны, у асноўным, вытворцаў прадукцыі, налічвае 130 месцаў. Як піша ў звароце да Аляксандра Лукашэнкі прафсаюз прадпрымальнікаў «Садружнасць», забарона гандляваць азначае «рэзкае скарачэнне працоўных месцаў, а ў некаторых выпадках – закрыццё наладжаных вытворчасцяў». Далей прадстаўнікі прафсаюза пішуць: «Чыноўнікі сцвярджаюць, што ліквідацыя гандлёвых месцаў неабходная для забеспячэння бяспекі грамадзянаў і папярэджання магчымых надзвычайных сітуацыяў. Але хіба знікненне танных прадуктаў у горадзе – не надзвычайная сітуацыя? І хіба галаўны боль лечаць адразаннем галавы? Мы прапануем чыноўнікам замест арганізацыі рэвалюцыйнай сітуацыі ў Мінску заняцца арганізацыяй пляцовак гандлю таннымі прадуктамі ва ўсіх раёнах горада. Гэта зменшыць наплыў пакупнікоў на Камароўскім рынку». Сапраўды, людзі ідуць на «Камароўку» за таннымі прадуктамі: па статыстыцы, за тыдзень на рынак прыходзяць каля паўмільёна мінчан і жыхароў раёна. А закрыццё 130 гандлёвых месцаў – гэта ясна як божы дзень – сітуацыю не палепшыць.

Так, прадпрымальнікам прапанавалі перабрацца ў суседні «Паркінг». Ды толькі арэнда гандлёвых месцаў не кожнаму па кішэні, бо адзін толькі бокс каштуе 17 тысяч долараў. Прадпрымальнікі, каб толькі застацца на ранейшых месцах, згодныя на павышэнне арэнднай платы за месца ў паўтара раза. Узамен яны абяцаюць не падымаць цэны на тавары і «не дапусціць, каб маламаёмасныя жыхары горада пазбавіліся магчымасці купляць на Камароўскім рынку танныя прадукты». Разам з гэтым зваротам «Садружнасць» накіравала А.Лукашэнку подпісы наведвальнікаў рынку, якія гэтаксама пратэстуюць супраць выгнання гандляроў.

Сітуацыя на «Камароўцы», з упэўненасцю можна сцвярджаць, застаецца напружанай. ■

**ПОШТА**

## Мэр, губернатар, імператар

Як хутка мяняюцца людзі. Здаецца, яшчэ нядаўна бальшыня начальства лічыла сябе ў «перадавым атрадзе чалавецтва», стаяла за сацыяльную роўнасць і адхіляла, па меншай меры ўслых, саслоўныя прэтэнзіі. Зараз паміж імі ўвайшло ў моду называць гарадскога галаву на французскі лад Мэрам, начальнікам абласных адміністрацыяў падабаецца, калі іх мянуюць Губернатарамі (прыкладам, брэсцкі губернатар, магілёўскі губернатар). Марудна пакуль распаўсюджваецца назва «сенатары» ў адносінах да членаў Нацыянальнага сходу.

Сам Лукашэнка ў тэлепрамовах называе сваіх назначэнцаў такімі замежнымі тэрмінамі, хоць іх у Канстытуцыі няма. Аднак у нас на Беларусі нідзе не праводзяцца прамыя выбары кіраўнікоў гарадскіх саветаў. Нашы беларускія мэры – звычайныя назначэнцы, якія не маюць мандата ад народа. Пра губернатараў і казаць няма чаго. Яны цалкам пад наглядам прэзідэнта. Славесная гульня нібыта набліжае нашы сярэднія кіруючыя пасады да расійскіх, дзе мэраў і губернатараў абірае электарат. Аднак для беларусаў губернатары асацыіруюцца з Мураўёвым ды Курловым. Першы пазначыўся забойствамі паўстанцаў, другі — расстрэлам дэманстрацыі працоўных у 1905 годзе. Можа, калі прызвычаімся да «губернатараў», дык прасцей будзе менаваць якога наступнага прэзідэнта «імператарам». Чаму б не? У перакладзе з лаціны «імператар» азначае «ўладар». Хіба гэта не адпавядае рэчаіснасці?

**Леанід БУТКЕВІЧ,**
**жыхар Мінска**

# Разбуральныя ўказы

**З кожным днём усё болей адчуваецца, як бяднеюць беларускія прадпрыемствы. Гэта бачна паўсюль – практычна няма шыкоўных крамаў, не відаць рэкламы экстра-класа, на тэлебачанні – адно сацыяльныя ролікі. Поўнае ўражанне, што бізнес вось-вось памрэ, калі яшчэ не памёр. З пытаннем «Ці сапраўды гэта так?» карэспандэнт НАШАЙ СВАБОДЫ звярнуўся да віцэ-прэзідэнта Беларускага саюза прадпрымальнікаў Аляксандра ПАТУПЫ.**

***— Спадар Патупа, што, на вашую думку, цяпер робіцца з прыватным бізнесам?***

— На рубяжы 1999/2000 гадоў беларускае прадпрымальніцтва апынулася ў надзвычай цяжкім стане. Па-першае, пачаў дзеянне новы Грамадзянскі кодэкс, які істотна ўскладніў жыццё прадпрыемстваў. Напрыклад, цяпер статутны фонд можа складаць не менш за 3.000 мінімальных заробкаў. На сённяшні дзень гэта 7.500 долараў, што вельмі шмат.

Па-другое, у канцы 1999 года быў прыняты вядомы дэкрэт №40: прэзідэнт дазволіў канфіскоўваць без суда любую маёмасць, якая, па меркаванні ягоных прадстаўнікоў, звязаная са злачыннай дзейнасцю. Гэтая маёмасць канфіскоўваецца ў якасці залога для будучага прысуду суда.

Такога манархі сабе не дазвалялі гадоў з тысячу. Вядомы аналагічнымі «фокусамі» – свавольнай канфіскацыяй маёмасці – хіба такі псіхапат, як Калігула, і не меней вядомы Нерон. А цяперашнія юрысты пасаромеліся б пісаць такія дэкрэты...

Усе ведаюць пра страйкі прадпрымальнікаў. Насамрэч гэта выключная з'ява: вельмі цяжка давесці індывідуальнага прадпрымальніка да такога стану, каб ён кінуў сваю працу і пайшоў страйкаваць. Бо за кожную гадзіну страйку прадпрымальнік разлічваецца неатрыманым даходам.

Апошні выбух страйкаў быў выкліканы тым, што прадпрымальнікі, якія раней спраўна плацілі фіксаваны падатак, мусілі плаціць з новага года яшчэ і падатак на дададзеную вартасць (ПДВ) – гэтага патрабаваў новы закон. Але ж, калі прадпрымальнікі набывалі тавары, ніхто пра ПДВ яшчэ не ведаў. Прадпрымальнікі не мелі фінансавага рэзерву, каб заплаціць яго, адсюль і пачаўся канфлікт.

***— Хіба гэтая складаная сітуацыя нарадзілася сёння?***

— Не. За ўвесь час прэзідэнцкага праўлення ці прэзідэнтуры з самага пачатку ішоў сістэматычны наступ на прадпрымальніцтва. Гэта – адлюстраванне палітыкі дзяржавы, галоўная асаблівасць якой – вынішчэнне ўсіх формаў кантролю за прэзідэнцкай галіною ўлады. Такая з'ява вельмі шкодная для Беларусі, бо няма каму папраўіць памылкі, зробленыя «першай асобай».

На рубяжы 1996 года наша краіна адчула трагічны пераход з рынкавай (хоць і вельмі слабай) эканомікі ў адміністратыўна-камандны рэжым. Дзяржава пачала абсалютна дамінаваць. Фармальным пачаткам для гэтага была вядомая лютаўская (1996 г.) тэлефанаграма прэзідэнта, якая на паўгода прыпыніла рэгістрацыю, перарэгістрацыю, ліцэнзаванне суб'ектаў гаспадарання — нечуваная дагэтуль рэч.

У эканамічнай сферы кантроль быў перахоплены амаль на 100 працэнтаў — таму што незалежныя, прыватныя структуры, прадпрымальнікі гэтаму рэжыму проста непатрэбныя і нават вельмі небяспечныя для прэзідэнта.

Калі на 1996 год у Беларусі было каля 300.000 суб'ектаў гаспадарання, дык цяпер, на пачатак гэтага года, засталося толькі 200 тысяч (з іх каля 120.000 — прыватныя прадпрымальнікі, астатнія 80.000 — прадпрыемствы розных формаў). Такім чынам, агульная колькасць суб'ектаў скарацілася на трэць, гэта вельмі рэзкі спад. Дастаткова сказаць, што скарачэнне складала ў сярэднім 5 суб'ектаў у дзень.

Апошнім часам улада стала аказваць на прадпрымальніцтва асабліва моцны ціск – на гэты раз з просьбай «дапамагчы» роднай краіне. Прадпрымальнікаў выклікаюць і прымушаюць будаваць на свае сродкі, прыкладам, хатку ў вёсцы, а то і дзве, і тры... У іншых выпадках патрабуюць даць грошы на набыццё збожжа. Просяць таксама грошы, а то і паліва, на правядзенне сяўбы. Калі называць рэчы сваімі імёнамі, гэта — дзяржаўны рэкет.

Яшчэ адна «знаходка» А.Лукашэнкі — указ №117 «Аб некаторых пытаннях па ўпарадкаванні пасрэдніцкай дзейнасці пры продажы тавараў».

***— Што гэты ўказ патрабуе менавіта ад бізнесоўцаў?***

— Ён проста ўводзіць ліцэнзаванне ўсіх суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца гандлёва-пасрэдніцкай дзейнасцю.

Трэба адзначыць, што з памянёных 200.000 прадпрыемстваў і прадпрымальнікаў практычна ўсе займаюцца купляй-продажам. Для першапачатковага накаплення капіталу гэтая дзейнасць проста неабходная. Пры гэтым, пасрэдніцкая дзейнасць з'яўляецца асноўнай для 95% прадпрыемстваў і 100% прадпрымальнікаў. Такім чынам, новы ўказ датычыць практычна ўсіх.

Урад да 7 красавіка мусіць падрыхтаваць усе неабходныя нарматыўныя акты дзеля пачатку ліцэнзавання. Дакумент, на падставе якога яно будзе праводзіцца, рэальна з'явіцца не раней за травень – а ўжо з 1 ліпеня пачнуць прымяняцца штрафныя санкцыі.

Такім чынам, у 200.000 суб'ектаў гаспадарання будзе толькі два месяцы на тое, каб атрымаць ліцэнзію. Зноў ствараецца сітуацыя панікі, вар'яцкага дома «на роўным месцы». Пастаўленая мэта скараціць колькасць пасрэднікаў, з імі вядзецца максімальна шырокая барацьба, таму зразумела – ліцэнзіі будуць нейкім яўным ці няяўным чынам абмяжоўвацца.

***— А як, спадар Аляксандр, такі ўказ можа паўплываць на эканоміку Беларусі?***

— Праблема ў тым, што, змагаючыся з пасрэднікамі з такім энтузіязмам, прэзідэнт мяркуе, што такім чынам ён змагаецца з цэнамі, памяншаючы колькасць пасрэднікаў. На вялікі жаль, усё атрымоўваецца не зусім так, і цэны наўрад ці паменшацца. Бо заўсёды існуе канчатковая надбаўка да цаны, якую згодны плаціць спажывец. Гэтую канчатковую надбаўку могуць падзяліць паміж сабой і адзін пасрэднік, і дзесяць. Колькасць пасрэднікаў рэгулюецца рынкам — проста, калі пасрэднікаў становіцца шмат, яны ідуць у іншую сферу.

Дзяржава цяпер рэгулюе цэны на базавыя прадукты – хлеб, масла, малако. Прычым рэгулюе вельмі дзіўна: калі агульная інфляцыя за мінулы год склала 351%, то такія недалікатэсныя тавары, як бульба і масла, падаражэлі куды болей. Увесь час ішло магутнае дзяржаўнае рэгуляванне цэнаў, і ў выніку адбылася катастрофа.

З іншага пункту гледжання, нас чакае новы росквіт дзяржаўнай карупцыі. Яна ў нас ужо развітая ў вельмі высокай ступені – пра гэта яшчэ ў 1993 годзе ў сваім славутым дакладзе казаў дэпутат Вярхоўнага Савета Аляксандр Лукашэнка. З таго часу так ніхто і не звярнуў увагу на тое, на якія заробкі жывуць чыноўнікі, у тым ліку – вертыкальныя чыноўнікі. Атрымліваецца, што іх практычна штурхаюць на гэтую дзейнасць.

***— Зразумела, што гэты ўказ стварае пэўныя праблемы для бізнесу, прадпрымальніцтва. Але якім чынам ён датычыць нас, звычайных спажыўцоў?***

— Для любога спажыўца указ №117 таксама стварае пэўныя цяжкасці. Пасрэднік – гэта канкрэтны чалавек, які ў краме, на рынку, у шапіку, з прылаўка прадае нам тавар, і вельмі добра, калі такіх прылаўкаў шмат. Гэта не дазваляе манапольна падвышаць цэны. Гэта і ёсць рэальнае рэгуляванне цэнаў.

Шмат прадаўцоў намагаюцца прадаць хутчэй свой тавар. У выніку мы атрымоўваем магчымасць набыць розны тавар, рознага асартыменту, з камфортам – адразу побач са сваім домам, а не ў цэнтры, дзе ёсць адзін магазін. Такім чынам, усё робіцца для камфорту спажыўца.

Адзін шапік забяспечвае працай чатыры-пяць чалавек – мы кажам нават пра просты шапік! Можна сабе ўявіць, колькі забяспечвае вялікі магазін. Людзі прадаюць тавар, падвозяць тавар, закупляюць яго, захоўваюць. Гэта і ёсць нармальная чалавечая дзейнасць.

Указ імкнецца абмежаваць колькасць пасрэднікаў – і такім чынам пазбаўляе спажыўцоў выбару.

***— Які ваш прагноз на будучыню, што чакае нашу эканоміку, бізнес?***

— Наша эканоміка крок за крокам паслядоўна пераходзіць у стан, які б я назваў экспрапрыяцыйна-рэпрэсіўнай фазай: праводзяцца экспрапрыяцыі, у тым ліку пры дапамозе рэпрэсіяў. Па сутнасці справы, так знішчаўся ў свой час НЭП у гарадах, потым такім жа чынам вынішчаўся незалежны селянін – кулак. Цяпер прымяняюцца практычна тыя ж захады. Усё болей становіцца рэпрэсіяў, усё меней становіцца ўласна эканомікі.

Я чакаю, што вось-вось у Крымінальным кодэксе зноў з'явіцца артыкул «спекуляцыя». Гэта ўсё, на што здольная цяперашняя ўлада, — увесці артыкул за спекуляцыю, забараніць захоўванне наяўнай валюты і забараніць «тунеядства». І тады адбудзецца поўнае вяртанне ў савецкія часы.

**Гутарыў**
**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**


Фота IREX/ProMedia

 

АЎДЫТОРЫЯ

# «Чачэнцы змагаюцца за свабоду»

Вольга АНЦЫПОВІЧ

**18 сакавіка ў Мінску адбыўся грамадскі працэс па Чачні «Барацьба за незалежнасць і генацыд: праўда супраць хлусні». На працягу пяці гадзінаў прадстаўнікі Маладога Фронту імкнуліся высветліць, што насамрэч адбываецца на чачэнскай зямлі. Для гэтага былі заслуханыя выступы абаронцаў расійскага і чачэнскага бакоў (у гэтай якасці выступалі самі маладафронтаўцы), паказанні сведак і экспертаў (члены беларускіх праваабарончых арганізацыяў, журналістка Т.Снітко, якая некаторы час была ў Чачні, дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання Павел Знавец і інш.).**

Журы працэсу павінна было вынесці свой вердыкт. Дарэчы, яно не было такім прадстаўнічым, як абяцалі ініцыятары мерапрыемства. Шмат хто з палітыкаў, як стала вядома, адмовіўся ад удзелу амаль у апошні момант. У зале ў асноўным прысутнічала моладзь, што, на думку вядучага працэсу П.Севярынца, заканамерна. «У Чачні як з аднаго, так і з другога боку ваююць маладыя людзі, менавіта маладым беларусам пагражае адпраўка на чачэнскую вайну, і нарэшце, моладзь будзе ліквідоўваць наступствы вайны», – адзначыў ён.

Цяжка казаць пра аб'ектыўнасць і незаангажаванасць маладафронтаўцаў адносна чачэнскай праблемы. Скрытная пазіцыя ўжо даўно выпрацаваная, і чачэнская вайна амаль усімі імі адназначна ўспрымаецца як генацыд чачэнскага народа. Фактычна гэта і пацвердзіў грамадскі працэс.

Галоўныя спрэчкі вяліся вакол пытання, наколькі барацьба за незалежнасць можа апраўдаць захоп закладнікаў і прыкрыццё мірнымі жыхарамі. Большасць прысутных пагадзілася, што тэрарыстычныя акты, бясспрэчна, не маюць ніякага апраўдання, але чачэнцам проста не пакінулі іншага выйсця.

Як адзначыў адзін з членаў журы, вядомы пісьменнік, удзельнік Айчыннай вайны Артур Вольскі: «Для мяне бясспрэчна, што чачэнскі народ зараз змагаецца за сваю незалежнасць. А вайна – гэта заўсёды вайна». ■

ЗДАРОЎЕ

# Здравоохранение в борьбе с нищетой

Джеффри Д. САКС,
профессор экономики,
директор Центра международного развития Гарвардского университета

**Гро Брунтланд, глава Всемирной организации здравоохранения, утверждает, что ужасающие санитарно-гигиенические условия в беднейших странах мира являются одним из главнейших препятствий на пути их экономического развития.**

В середине января д-р Гро Брунтланд создала всемирную Комиссию по макроэкономике и здравоохранению (КМЗ), меня назначили председателем этой комиссии. Перед КМЗ стоит огромная, но простая в постановке задача: помочь превратить всемирное здравоохранение в один из центральных элементов стратегии глобального экономического развития.

Сами по себе рыночные реформы не спасут народ от нищеты, если одновременно люди вынуждены бороться с эпидемиями СПИДа, малярии или туберкулеза, или с хроническим недоеданием. Населению, которое сражается с болезнями, недостает энергии, продуктивности или средств для того, чтобы позаботиться о своем собственном будущем. Исследования показывают, что при низкой продолжительности жизни инвестиции в будущее (скажем, посещаемость школ или личные накопления) и иностранные капиталовложения также низки.

В современной истории улучшение системы здравоохранения ускоряло темпы экономического развития. Например, в Британии именно повышение продуктивности сельского хозяйства в 18 веке, которое улучшило стандарты питания и уменьшило инфекционные болезни, положило начало Промышленной Революции. Именно искоренение малярии в Испании, Италии и Греции в конце 1940-х годов (не без участия местных жителей, распылявших пестициды) привело там к буму в сфере туризма и к резкому росту иностранных капиталовложений в 1950-60-х годах. Такой успех помог Южной Европе приблизиться по уровню доходов к более богатым странам Северной Европы.

Санитарно-гигиенические условия во многих беднейших странах мира ужасающие и в некоторых случаях даже продолжают ухудшаться. Примерно треть детей в беднейших странах голодает, и поэтому они гораздо более подвержены инфекционным заболеваниям, умственным и прочим расстройствам. Средняя продолжительность жизни тут ненамного превышает 50 лет (по сравнению с 77 годами в богатых странах). Миллионы бедных людей ежегодно умирают от инфекционных заболеваний (малярия, туберкулез, пневмония, корь). Парадоксально, что во многих случаях (как, например, при кори) применение существующих вакцин могло бы предотвратить летальный исход, однако жители зачастую слишком бедны, чтобы воспользоваться хотя бы элементарной медицинской помощью.

Во времена исключительного динамизма мировой науки и беспрецедентных темпов роста благосостояния, переживаемых самыми богатыми странами (за последние четыре года США заработали на биржевых операциях примерно 8 триллионов долларов!), мировое сообщество стремится к более эффективному подходу к борьбе с нищетой. Всемирная организация здравоохранения становится в центр этой борьбы.

© Project Syndicate

# Чернобыльские беженцы

Наталья РАДИНА

**После чернобыльской катастрофы прошло 14 лет. За эти годы государства, благотворительные организации и международные фонды потратили огромные средства, чтобы ликвидировать последствия аварии....Сколько? Обычные люди, которые живут в зараженных зонах, почти ничего не получили. Не принесло желанных результатов и переселение людей, потому что в новых местах условия жизни оказались не лучше, и многие переселенцы стали возвращаться.**

## Новоселы

За прошедшие после катастрофы годы из зоны радиоактивного загрязнения было отселено более 132 тысяч человек. Выехала треть населения, причем в основном молодого возраста. В столице сегодня проживает примерно 17 тысяч переселенцев из загрязненных районов Могилевской и Гомельской областей. Квартиры они получили в основном в микрорайонах Уручье, Малиновка и в поселке Шабаны. Большая часть переехавших в Минск – инвалиды, семьи с детьми-инвалидами и ветераны ВОВ – их эвакуировали в первую очередь. Тогда, в 1991 году, они получили отдельные квартиры. Правда, треть переехавших чернобыльцев сегодня проживает в Шабанах, которые считаются промышленным, а следовательно, загрязненным районом города. Но тогда никто из переселенцев об этом не задумывался – была бы крыша над головой.

Денежные компенсации, которые им тогда выплатило государство за брошенные в зоне дома, «съела» инфляция. Тогда, в 1991 году, прилавки наших магазинов были пусты, и приобрести что-нибудь стоящее даже при наличии денег было невозможно.

Перебросив людей из обжитого места в огромный город, государство предоставило им три месяца на трудоустройства с выплатой средней заработной платы. Многие из них за этими деньгами возвращались в зону радиоактивного загрязнения. Эвакуируя людей, их расселили в Минске без учета прежнего (в основном, сельского) опыта жизни. Почти все из них жили в деревнях или местечках. Многие имели профессии, которые необходимы на селе, но не востребуются в городе. Куда было деваться колхозным механизаторам и зоотехникам в городе, где уровень безработицы и без того высок?

Неудивительно, что сегодня среди минских переселенцев из Чернобыльской зоны, которые не смогли начать жизнь на новом месте, так много алкоголиков. Были и случаи самоубийства. Так, отец четверых детей Анатолий П. проработал в колхозе 12 лет механизатором. Переселившись как чернобылец в Минск, трудоустроиться не смог, стал выпивать, отчаялся... Теперь его вдова воспитывает четверых детей.

## «Дети заболевают неожиданно и быстро...»

Сегодня в поликлинике Шабанов на диспансерном учете состоит 390 детей-переселенцев. На них приходится 1.200 диагнозов. Это значит, что каждый из этих детей имеет 3-4 хронических заболевания одновременно. Самые распространенные – патология органов дыхания и заболевания сердца. Растет заболеваемость щитовидной железы, что сегодня считается прямым следствием аварии на ЧАЭС. У 80 процентов детей обнаруживаются признаки хронических воспалений желудка. Высокий предраковый потенциал хронических гастритов у детей, пострадавших от катастрофы на ЧАЭС, приводит к злокачественным патологиям уже в молодом возрасте.

Почти половина детей из Чернобыльской зоны на несколько лет отстает в психическом развитии, у каждого пятого – хроническая патология. Увеличивается количество и тяжесть депрессивных синдромов, растет риск совершения самоубийств. Многие жалуются на головные боли, хроническую усталость, потерю памяти, раздражительность, резкое повышение давления. У чернобыльцев возникает стойкий комплекс неполноценности. Здесь речь идет не столько о стрессе, сколько о влиянии радиации на мозг.

Но реалии сегодня таковы, что массовые профилактические осмотры проводятся формально. Цель массовых осмотров – выявление заболеваний на ранних стадиях. Но в действительности работа ведется практически только по обращаемости. Эффективность диспансеризации «чернобыльцев» на сегодняшний день впечатляющая: состояние улучшилось у 904 человек, ухудшилось у 1.293 человек.



Фота Ул.ШЛАПАКА

## Лечение в пионерском лагере

Сегодня переселенцы из радиоактивной зоны утверждают, что, переехав в Минск, они лишились возможности санаторно-курортного оздоровления. Действительно, за 1999 год из 390 детей-переселенцев оздоровлялся 151. Хотя городское управление по оздоровлению утверждает, что «у нас оздоравливаются все», путевка в санаторий достается далеко не каждому ребенку-переселенцу. Создается впечатление, что государству выгоднее выплачивать компенсации за то, что ребенок из Чернобыльской зоны не попал в санаторий. Ежегодно таким детям выплачивается сумма, несоизмеримо меньшая стоимости путевки. Например, прошлым летом средняя стоимость путевки в санаторий составляла около 100 миллионов, а компенсации детям, которые путевки не получили, выплачивались в размере 26 миллионов рублей.

Гораздо сильнее поражает другое. Дети-переселенцы после 14 лет вообще не оздоравливаются, хотя медики давно говорят о необходимости оздоровления 15—16-летних подростков, у которых проходит вторая ответственная фаза развития организма. Они относятся к группе радиационного риска. В 1986 году им было до 6 лет, и теперь они оказались самыми незащищенными. Сегодня они как никто другой нуждаются в регулярном санаторно-курортном оздоровлении.

Система пребывания в санаториях республики довольно оригинальна. К примеру, если детей после семи лет не пускают в санаторий с родителями, то после 14 лет во «взрослый» оздоровительный профилакторий подросткам не попасть без родителей, считается, что за ними необходим присмотр. Для детских санаториев – они слишком взрослые, для «взрослых» — дети. Замкнутый круг.

В основном детям-переселенцам предлагаются путевки в санатории «Зубренок» и «Волма». Ликвидаторы, которые «оздоравливались» там со своими детьми, утверждают, что эти санатории сегодня не могут предоставить полноценного санаторно-курортного лечения для людей, состоящих на диспансерном учете. По их словам, это неплохие пионерские лагеря, но вовсе не санатории для людей, пострадавших от радиоактивного облучения.

Есть еще одна вопиющая несправедливость. Дети, которые родились у переселенцев и ликвидаторов после аварии, считаются здоровыми. Их не ставят на диспансерный учет, им не полагается санаторно-курортное лечение. Забыто, что последствия радиации будут проявляться через поколения. Генный аппарат — самый уязвимый.

## А может вернуться?

Среди переселенцев, особенно среди пожилых, немало желающих вернуться в родные места. Они так и не смогли привыкнуть к жизни в столице. Некоторые продали свои минские квартиры и вернулись. А почему бы и не вернуться, если даже правительство призывает жителей республики возвращаться в зараженные зоны и спекулирует на традиционной привязанности к своему дому. Лукашенко неоднократно заявлял, что жить в зоне безопасно, и люди с покорностью готовы вернуться под облучение.

Но сегодня их жилье в загрязненной зоне уже занято людьми из разных «горячих» точек бывшего Союза. Поселились они в брошенные дома, и жилищная проблема здесь теперь не меньшая, чем в столице. Цифры красноречиво свидетельствуют: в 1999 году разрешение на кратковременный въезд в зону получили 32.334 человека, без пропусков было задержано 2.828 человек.

Сегодня в 30-километровой зоне официально проживают 1.108 человек. Все эти люди, вернувшиеся в зону или принявшие в 1986 году решение не покидать свое место жительства. В основном вернулись старики, молодые быстрее приспособились к городу.

Люди могут привыкнуть к любому несчастью. На страницах ветковской, брагинской, хойникской районных газет про радиационную опасность теперь не пишут ни слова. Ну что могут изменить регулярные сводки радиационного фона? Все равно жители зоны по-прежнему собирают летом загрязненные цезием и стронцием грибы и ягоды. Магазинов в зоне нет. Завозят только хлеб. Поэтому люди едят все, что дает природа, и радиации не боятся.

До сих пор ни одна государственная организация не разработала законченную социально-медицинскую программу изучения последствий Чернобыля. Люди, живущие в зараженных зонах, не знают, какое количество радиации опасно после одного года пребывания в зоне, после 10 лет? Никто в принципе не знает, на какое именно время должна быть покинута зараженная зона?

Людям трудно поверить в серьезность ситуации, которую несерьезно воспринимает наше государство. ■

